**ІСКРЫ ІЛЬІЧА** ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ МАЛОДШАГА ЎЗРОСТУ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ ЛЮТЫ 1934 № 2



ЛЮТЫ
23
ДЗЕНЬ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

# 16 ГОД НА ВАРЦЕ КРАІНЫ СОВЕТАЎ

Пасля Окцябрскай рэволюцыі ўлада перайшла ў рукі пролетарыята. Але буржуі не здаліся адразу. Яны сабралі царскіх генералаў, арганізавалі арміі і рушылі іх у бой супроць Советаў. Яны хацелі вярнуць назад сабе заводы і памешчыцкія маёнткі.

Замежныя дзяржавы дапамагалі царскім генералам і войскам і зброяй.

Маладая совецкая рэспубліка была з усіх бакоў акружана ворагамі. Трэба было абараняць рэволюцыю са зброяй у руках.



К. Е. ВАРАШЫЛАЎ

23-га лютага 1918 года тав. Ленін падпісаў дэкрэт пра арганізацыю рабоча-сялянскай Чырвонай арміі.

Чырвонай арміі прышлося змагацца супроць войск буржуазіі усяго свету. Але яна з гонарам перамагла ўсіх гэтых ворагаў. Перамагла таму, што змагалася за рэволюцыю і мела смелых, адважных байцоў і камандзіраў. Чырвонай арміяй кіравалі правадыры рэволюцыі Ленін і Сталін, кіравалі лепшыя сыны партыі большэвікоў — Фрунзэ, Варашылаў, Будзённы і інш.

Зараз наша Чырвоная армія, загартаваная ў бітвах за рэволюцыю, стала самай магутнай арміяй у свеце.

Мы вайны не хочам. Вайна непатрэбна краіне Советаў. Буржуазныя-ж дзяржавы ўвесь час рыхтуюцца да вайны супроць нас. Але, як сказаў таварыш Сталін: „тыя, хто паспрабуе напасці на нашу краіну, атрымаюць сакрушальны адпор, каб надалей непавадна было ім соваць сваё свіное рыла ў наш совецкі гарод".

Чырвоная армія цвёрда стаіць на варце мірнага соцыялістычнага будаўніцтва.

**НЯХАЙ ЖЫВЕ ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ!**





# „ВУЧЫЦЕСЯ ЎПАРТА, ШМАТ, СТАРАННА"

Летась у верасні месяцы таварыш Варашылаў паслаў адной окцябрацкай зорачцы з горада Ленінграда адказ на прысланае яму пісьмо.

У тым пісьме Клімент Ефрэмавіч заклікаў окцябрат: „Вучыцеся ўпарта, шмат старанна. Веды — вялікая сілішча. З ведамі вы ўсе будзеце большэвікамі-веліканамі".

У адказ на пісьмо наркома окцябрата сталі лепш вучыцца.

У студзені дэлегацыя ад окцябрат з горада Ленінграда, Растова і піонеры-асоавіяхімаўцы з горада Масквы наведалі таварыша Варашылава.

Рэбята прыехалі расказаць правадыру Чырвонай арміі аб сваіх поспехах у вучобе, прывезлі паказаць мадэлі самалётаў, паказаць свае сшыткі, узоры ручной работы.

Аб усім распытваў таварыш Варашылаў у дэлегатаў: і як вучацца ў школах, і як дысцыпліна наладжана, і як вайсковая справа ў іх пастаўлена, і як адпачываюць у вольны час.

Доўга гутарылі рэбята з наркомам. А пасля гутаркі паказалі, як яны праводзяць свой адпачынак: танцавалі, спявалі песні, дэкламавалі свае вершы.

Вясёлыя, здаволеныя выходзілі рэбята ад наркома.

На развітанне Клімент Ефрэмавіч сказаў:

**— Вучыцца трэба і яшчэ вучыцца. Перад вамі стаіць вялікая задача: вы — будучыя будаўнікі нашай краіны. Вы тыя, каму належыць будучыня. І яшчэ перад вамі задача — змагацца за дысцыпліну. Трэба быць добрымі вучнямі, ударнікамі і культурнымі дысцыплінаванымі рэбятамі.**

Рэбята! Адкажам на заклік наркома яшчэ лепшай вучобай, прыкладнай дысцыплінай. Будзем вывучаць вайсковую справу, каб умець абараняць сваю краіну.



# СЦЯГАНОСЕЦ ІВАНЕНКА

Апавяданне В. КАВАЛЯ
Малюнкі А. ВОЛКАВА

1.

Чырвоны полк стаў на начлег..

Полк быў стомлены ў баях. Ад страшных баёў засталося ў палку тры роты чырвонаармейцаў, тры кулямёты, адна гармата ды ярка-чырвоны сцяг.

Сцяг быў гонарам палка. На ім напісаны ўсе перамогі, адважныя паходы на ворага. Аддасі ў баі сцяг—не будзе і самога палка.

Сцяганосцам у палку быў 20-гадовы чырвонаармеец Іваненка..

Спалі чырвонаармейцы—хто седзячы на лаўцы, хто стоячы, абапёршыся на вінтоўкі. Ніхто не выпускаў з рук сваіх баявых вінтовак. Сніліся ім у гэты час сны яркія, як вясна. Барадаты чырвонаармеец па прозвішчу Лебяда шырока ўсміхаўся скрозь сон. А адзін бялявы, зусім ящчэ малады, крычаў з прасонку.

Спалі чырвонаармейцы ў сялянскіх хатах і не чулі трывогі. Бяда насоўвалася з лесу, акружала вёску.

Адзін Іваненка бачыў скрозь ноч: мільгалі за курганамі злыя аганькі. То знікалі, то зноў успыхвалі. Можа гэта воўчыя вочы, можа зарніцы, а можа проста іскаркі...

Не, гэта не іскаркі...

— Трывога!—закрычаў Іваненка.—Белыя! Гарніст, трубі трывогу!..

Выбеглі чырвонаармейцы з цёплых хат на люты мароз. А вораг ужо касіў з кулямёта, бухаў з гармат. Гарэла за ваколіцай хата. Полымя асвятляла на гародзе стог саломы, засыпаны снегам.

Камандзір чырвонага палка — суровы і моцны, як дуб—аддаў кароткі загад:

— Адступаць! Берагчы зброю!.. Берагчыся самім... Набірацца новых сіл...

Чырвонаармейцы стралялі, шкадуючы кожны патрон і кожную гранату, і адступалі ў глыбіню Палескага балота, бо сілы ў ворага было ўдвое больш.

Вартавы Іваненка, расстраляўшы патроны, кінуўся ў хату ратаваць сцяг. Як-жа пакінуць ворагу свой баявы сцяг, праслаўлены ў баях? Іваненку заўважылі белыя і кінуліся даганяць.

Кулі звінелі ля вушэй. Адна з іх прастрэліла сцяг і шлем сцяганосца.

— Хутчэй-бы ўцячы, выратаваць сцяг... Толькі-б хутчэй... Але не, не ўцячэш...

Іваненка ў адчаі кінуўся ў стог саломы, зарыўся ў яго. Каля яго прабеглі белыя з настаўленымі ўперад штыхамі. Прабеглі і не заўважылі...

Ужо далёка за вёскаю гучэлі стрэлы і снарады. Яго родны полк адступаў, а баявы сцяг быў разам з ім, каля грудзей. Сцяганосец Іваненка прыціскаў сцяг да сэрца.

2.

Прышла раніца. Прышоў марозны дзень. Паднялася ў полі, загуляла завіруха. Іваненка ўсё яшчэ ляжаў у стагу.

На вёсцы гулялі белыя афіцэры. Чуваць быў п'яны смех, гармонік. Плакала пакрыўджаная жанчына.

— Не ўцячэш, нікуды не ўцячэш,—думаў Іваненка. — Эх, трапіць-бы да сваіх таварышаў!..

Але як ты трапіш? Кругом моцная варта. Адзінае, што засталося ў Іваненкі—родны сцяг.

У стагу было цёмна, як у бяздоннай яме. Холадна як у магіле. Ужо нельга было паварушыць рукою, зліпаліся калючымі ільдзінкамі павекі. І толькі сцяг, ярка-чырвоны сцяг, саграваё кроў.

Каб зараз хоць маленькі аганёк! Каб трошачкі цяплыні! А можа вырвацца з стога і пайсці ў цёплую хату?

— Не! Не!

У шчыльна прыплюснутых вачах пасыпаліся гарачыя, пякучыя іскаркі. Успомніў Іваненка маленства і радасныя іскаркі, калі рукамі лавіў іх над вогнішчам. Ах, залатыя вясёлыя іскаркі!

Замест іскарак сыпаліся з вачэй слёзы і пякуча апальвалі шчокі.

Сухая рука голада сціскала за горла...

А што калі ўстаць, пакуль ёсць сілы, зайсці ў хату і папрасіць:

— Хлеба! Маленькую крошачку хлеба...

А сцяг?..

І раптам шалёным віхрам загула мяцеліца. Закружылася ў дзікім танцы...

Успомніў Іваненка чырвоную Маскву. Пышная вясна была ў сталіцы. Ён з таварышамі-аднагодкамі, кожнаму з іх васемнаццаць слаўных год, запісваецца добраахвотнікам у чырвоны полк. Праводзіў завод іх, выпраўлялі рабочыя і давалі суровы наказ: берагчы краіну Советаў ад ворага.

І раптам на іхнім заводзе над тысячамі галоў выцягнулася ўперад рука. Ён ніколі не бачыў гэтага чалавека, але ён спазнаў абрысы твару, чалавечую ўсмешку, што ярчэй усякага сонца, і пачуў агнявыя ленінскія словы...

Воплескі бурай праносіліся па гулкіх карпусах завода. Тысячы людзей абяцалі аддаць жыццё за краіну Советаў...

У Крэмлі давалі вялікую клятву, чырвоную прысягу. Іваненка трымаў у руках він-



Кулі звінелі ля вушэй

тоўку. Разам з тысячамі таварышаў гаварыў:

— Я, сын працоўнага народа...

І закружыліся дні, і пайшлі паходы і баі...

І пасля таго заўсёды ў баях і ў паходах стаяла перад вачмі Іваненкі постаць—твар Леніна і яго словы, што аблятали ўвесь свет... І тады сцяганосец Іваненка яшчэ вышэй падымаў ярка-чырвоны сцяг і вочы ў яго загараліся іскрамі. І сэрца пылала пякучым агнём. Ён кідаўся ў бой наперадзе за ўсіх...

Чаму-ж цяпер няма ні агню, ні іскраў? Нават сэрца, такое маладое і гарачае сэрца, перастае біцца...

Вось яна прыходзіць, ужо ідзе смерць. Лёгкая і спакойная. Сцяганосец шчыльней прыціскае да сэрца многа разоў прастрэлены ярка-чырвоны сцяг...

3.

Прышла другая раніца, але не ўзыходзіла яшчэ сонца.

Тры роты чырвоных непрыкметна ўварваліся ў вёску. Было ў іх тры кулямёты, адна гармата, але не было чырвонага сцяга...

Камандзір палка вырашыў, што сцяганосца Іваненку і сцяг захапілі белыя. Таму так рашуча і адважна ўдарыла жменька чырвонаармейцаў супроць белага палка. Адабраць сцяг! Не даць белым бандам глуміцца!

Не чакалі белыя такой адвагі. У першы момант яны замяшаліся. Загадалі афіцэры салдатам страляць з вінтовак і кулямётаў, а гармат не паспелі яны зарадзіць.

Як скрозь сон пачуў Іваненка страляніну. Устрапянуўся і шпарчэй забілася сэрца.

— Няўжо свае? Нашы... Родныя!..

Паспрабаваў Іваненка раз устаць—не мог. Хацеў у другі раз устаць—не мог. Разгарнуў рукамі салому і ўбачыў: узыходзіць над зямлёю сонца, і кроў на снезе пад колер сонца. Ён паспрабаваў у трэці раз устаць—і ўскочыў на ногі.

— Свае! Таварышы!—закрычаў Іваненка і пабег, махаючы сцягам.

Чырвонаармейцы ўбачылі Іваненку, убачылі свой сцяг і з апошняй страшнай сілай ударылі па ворагу.



Чырвонаармейцы з апошняй сілай ударылі па ворагу.

— Ура! Наперад!

Паў перад Іваненкам забіты кулямётнік Лебяда. Іваненка хутка накрыў барадатага кулямётніка сцягам, а сам лёг да кулямёта.

— Аго-онь!—крычаў Іваненка скрозь сціснутыя зубы.—Агонь па ворагу!

Наводзіў кулямёт і трапна цэліў у белых афіцэраў.

Адну хвіліну ад дыму нічога не відаць было. А потым убачылі чырвоныя, як ускочылі недабітыя афіцэры на коней і паімчалі галопам. Салдаты пакінулі кулямёты і таксама ўцякалі.

Адну роту белых дагналі чырвоныя і ўзялі ў палон. А другая рота разам з недабітымі афіцэрамі труслівa ўцякала ў лясы.

Пасля боя камандзір палка пастроіў сваіх чырвонаармейцаў і сам зрабіў пераклічку. Рэдкімі былі рады. Той, хто быў з чырвонаармейцаў жывым, адказваў сам, а за тых, хто загінуў у бai, — адказвалі таварышы:

— Адважна загінуў у барацьбе за рабочую справу...

За барадатага кулямётніка Лебяду адказаў Іваненка:

— Загінуў за краіну Советаў, за справу Леніна...

Тады суровы і моцны як дуб, камандзір палка зняў з галавы белую папаху і рукавом шынелі выцер з расніц пушынкі снегу. Усе чырвонаармейцы таксама знялі шапкі і стаялі моўчкі.

Потым сабралі байцы мёртвых чырвонаармейцаў і пахавалі ў адной брацкай магіле, а самі рушылі ў баявую дарогу.

# Песня пра герояў

У стэпі зялёнай,
Дзе шумеў Будзённы,
Паляглі, паснулі
Пад зямлёй сырою
Скошаныя куляй
Октябра герої.

Мы-ж геройскай славы
Гэтай не забылі—
Баявое справы
Іхняй не спынілі.

Дзе ішлі да бою
Смелыя герої,
Там цяпер пшаніца
Густа каласіцца.

Арміяй працоўнай
Многаміліённай
Прадаўжаем іхні
Шлях рэволюцыйны.

Гэй, жывей за справу,
Каб грымела слава
Нашых калектываў
На шырокіх нівах!

# ЧЫСТАЯ і СВЕТЛАЯ

Апавяданне А. ЛЯСНОГА
Малюнкі М. КАЛІШЭВІЧА

**Нашы калгасы павінны стаць большэвіцкімі, а калгаснікі заможнымі. Такую задачу перад калгасамі паставіў правадыр працоўных таварыш СТАЛІН.**

**Каб стаць заможным, трэба шчыра, сумленна працаваць. Многія калгаснікі—лепшыя ўдарнікі—ужо сталі заможнымі. У выніку гэтага зусім мяняецца жыццё калгаснікаў. Кожны, хто шчыра працуе, мае ўсе магчымасці жыць заможна, культурна. Калгаснікі і іх дзеці змагаюцца за такое заможнае, культурнае, радаснае жыццё.**

Позна ў гэтую раніцу спала Марылька, аж пакуль не разбудзіў яе гоман у хаце. Падняла яна галаву—цікава ведаць, хто гамоніць, чаго прышлі. Убачыла яна: сярод хаты стаяла некалькі піонераў.

Маткі ў хаце не было. Піонеры глядзелі на сцены, на столь.

Старэйшы Марыльчын брат, што прышоў разам з піонерамі, падышоў да яе, лепей накрыў.

— Спі, яшчэ рана табе ўставаць.

Але ці заснеш, калі ў Марылькі цікавасць гарыць,—чаго гэта яны ў хату такім гуртам увалілі?

У гэты час і матка ўвайшла, прывіталася з дзецьмі.

— Мусіць, нешта цікавае сказаць маеце, што столькі вас прышло?

Ёй адказалі:

— Нас піонерскі атрад паслаў. Мы прышлі ў вас культуру наводзіць.

— Культуру? Якую-ж гэта такую культуру, дзеткі?

— Вось што, цётка,—пачаў Уладзік Грак,—наша школа абвясціла паход за чыстую хату калгасніка. Наша звяно,—паказаў ён на ўсіх піонераў,—прымацавалі на чатыры хаты. Хочам дапамагчы вам чыстату навесці.

Марыльчына мама глянула на дзяцей, абвяла вачыма сваю хату. Нешта сказаць хацела, ды стрымалася.

... На падлозе валялася смецце. Папера, што калісці сцены абклейвалі, была паабрывана, запэцкана мухамі. А за паперай шалясцелі тараканы, прусакі. Трохі неякавата стала Грыпіне—Марыльчынай маме—за беспарадак у хаце.

***

— Дык вось цётка, мы вам абоі, партрэты правадыроў прынеслі. Вазьміце іх ды бярыцеся за работу.

— З чаго-ж тут пачынаць, дзеткі? Да чаго прыступіцца?—разводзіць рукамі Грыпіна.

Яе выручылі піонеры:

— А вы бярыцеся за поўны рамонт. Скідайце ўсё старое. Хай новае ўсё будзе.



— Ды ўжо-ж прыдзецца, дзеткі, прыдзецца. Тым больш, што вы і абоі прынеслі мне.

— Ну дык пачынайце, цётка, а нам яшчэ ў тры хаты трэба схадзіць. Мы зойдзем да вас потым.

Вышлі піонеры. Задумалася Грыпіна, аглядае сцены: „абоі прынеслі, значыць трэба старыя зрываць, партрэты павесіць. А што-ж з абразамі зрабіць?“ мільгае ў яе думка.

Марылька гэтым часам адзелася, да мамкі падбегла.

— Добрыя піонеры, мамка! Во колькі паперы прынеслі! Хораша ў нас цяпер будзе, чыста!

Пагладзіла Грыпіна Марыльку па галаве, сказала ёй:

— Мыйся, дачушка, паснедаем ды прымемся за работу.

* * *

Пасля снедання Грыпіна сарвала са сцяны ўсю старую паперу, зняла абразы.

— Мамка, а шкло ў абразах добрае, шыбы з яго зробім у вокны: у нас-жа не ўсе цэлыя.

— Зробім, дачушка. Канешне зробім. Хай уся хата будзе чыстаю, светлаю, як новая.

Марылька дапамагае ў рабоце. Узяла конаўку і гарачай вадой апарвае тараканоў і клапоў. Пасля пазносіла адзежу ў адну кучу. Маці вытрасае сяннікі, сама сабе гаворыць:

— Трэба будзе жалезны ложак купіць, а то ў гэтых надта-ж клапы заводзяцца.

— Купі, мамка, купі,—аж заскакала ад радасці Марылька, пачуўшы мамчыну гаворку.—Я не хачу больш спаць з клапамі.

* * *

Усе шчыліны замазала ў сценах Грыпіна. Печ пабяліла, сцены выклеіла светлай, у



кветкі, паперай. Глядзіць Марылька на сцены і хваліць піонераў за прынесеную паперу.

А па паўдні, ідучы са школы, зайшлі піонеры да цёткі Грыпіны. Цікава ім паглядзець як работа ідзе.

Хата выглядала ўжо чыстаю, толькі падлога была яшчэ не памыта. Весялей заглянула праз вокны сонейка, гуляе яно ў Марыльчыных белакурых валасах.

Яшчэ не былі развешаны партрэты правадыроў. Піонеры ўзяліся дапамагчы.

— Вы канчайце, цётка, прыбіраць хату, а мы самі партрэты развесім.

— Вось гэту цётку прыклейце тут,—просіць Марылька,—у гэтым куточку. Я тут сабе ленінскі куточак зраблю.

Пільна ўглядаецца Марылька на партрэт Крупскай: надта-ж выглядае яна добраю!

Аглядае Грыпіна хату, радасцю гарэць яе вочы.

— Зусім другою хата стала,—весялейшаю, святлейшаю.

— Цяпер глядзіце, каб усё чыста было надалей. Бо хлеба на працадні вы атрымалі многа, а ў хаце брудна было. А жыццё заможнае—гэта жыццё і культурнае,—гаворыць Грак, важаты звяна.

# НОВЫ ПЛАН ВЯ



26-га студзеня ў Маскве, у Чырвоным Крэмле, адкрыўся 17-ты з'езд нашай партыі. З усіх канцоў совецкай зямлі прыехалі сюды лепшыя людзі краіны—ударнікі большэвіцкай партыі, ударнікі заводаў і палёў.

З'езд сабраўся для таго, каб абмеркаваць праробленую за апошнія гады работу і вызначыць план далейшай барацьбы за новае жыццё.

## ШТО СКАЗАЎ ТАВАРЫШ СТАЛІН.

На гэтым з'ездзе выступіў з дакладам Іосіф Вісарыонавіч Сталін—любімы правадыр працоўных нашай краіны і ўсяго свету. Ён ясна і дакладна расказаў як мы працавалі за апошнія гады, чаго дабіліся, што і як павінны рабіць у час другой пяцігодкі.

Таварыш Сталін давёў на прыкладах як з года ў год расце наша совецкая краіна і як з года ў год разбураецца гаспадарка буржуазных краін. Дзесяткі мільёнаў рабочых буржуазных краін не маюць работы, сталі жабракамі.

У нас-жа няма ніводнага беспрацоўнага. Мы будуем заводы, калгасы, вырабляем усё больш і больш машын і прадуктаў.

У буржуазных краінах закр
Чаму так? Бо працоўныя зусім
фабрыкантаў і памешчыкаў тав

На падставе гэтага тавары
свету, што толькі пры
рыць шчаслівае і радас
дзяцей.

## НАША КРАІНА СТАНЕ

За першую пяцігодку зусім
Выраслі новыя магутныя заво
толькі ў буйных цэнтрах, а і

Беларусь да рэволюцыі был
Совецкая Беларусь стала адно
жывуць цяпер рабочыя, калгас
сябе калгаснік-ударнік тавары

**„У майго бацькі не было**
**добрага не было. Да ўступлен**

**Зараз я маю чатыры пары**
**ходзяць у лапцях. У мяне ёсц**
**дзе адпачыць. Думаю набыць**
**весці ў хату радыё“.**



Усе дзеці совецка

ЯЛІКАЙ РАБОТЫ

юцца заводы, пустуе многа зямлі. бяднелі. Яны не могуць купляць у ы і прадукты.

Сталін ясна паказаў усяму вецкай уладзе можна ства- е жыццё для працоўных і іх

## МАЙ БАГАТАЙ І МАГУТНАЙ.

яніўся твар нашай совецкай зямлі. электрастанцыі, калгасы. І гэта не усіх совецкіх рэспубліках. амай адсталай, цёмнай краінай. Зараз перадавых краін. Зусім па-новаму і іх дзеці. Вось што разказвае пра оннікаў:

**кала ні двара. У хаце нават стала ў калгас я заўсёды хадзіў у лапцях. утку, жонка таксама, дзеці ўжо не шафа, крэслы. Атынкаваў хату, ёсць а жалезныя лыжкі, два паліто і пра-**



**раіны вучацца ў школах.**



**Магутныя заводы, электрастанцыі, домны растуць у нашай краіне. На здымку—адна з самых вялікіх домнаў, пабудаваных за першую пяцігодку.**

А ў канцы другой пяцігодкі СССР стане самай багатай, самай магутнай краінай у Свеце, — так сказаў таварыш Сталін. А калі Сталін сказаў, — значыць будзе зроблена. Слова большэвіка—цвёрдае слова. $3^1|_2$ гады таму назад на 16-м з'ездзе партыі таварыш Сталін сказаў аб усеагульным навучанні. І зараз няма таго кутка ў нашай краіне, дзе не было-б уведзена ўсеагульнае навучанне.

## НОВЫ ПЛАН ВЯЛІКАЙ РАБОТЫ.

Чаму наша краіна стане самай багатай і магутнай?

Таму, што ў нас ёсць многа зямлі, многа жалеза, вугалю, лесу і розных другіх патрэбных матар'ялаў. (Ніводная другая краіна ў свеце не мае столькі багаццяў).

Таму, што рабочыя і калгаснікі—гаспадары нашай краіны і працуюць на сябе, а не на фабрыкантаў і памешчыкаў.

Таму, што ў нас ёсць сотні тысяч лепшых ударнікаў заводаў і палёў.

І таму, што ў нас ёсць магутная партыя большэвікоў і вялікі правадыр яе таварыш Сталін, якія вядуць краіну правільнай ленінскай дарогай да социялізма.

17-ты з'езд партыі зацьвердзіў новы план вялікай работы на другую пяцігодку.

За другую пяцігодку СССР вырасце яшчэ больш, чым за першую. Вось некаторыя лічбы з гэтага плана.

79 электрастанцый намечана пабудаваць за другую пяцігодку.

Увесь свет ведае нашу Дняпроўскую электрастанцыю. Воды магутнага Дняпра мы прымусілі выраблядь электрычную сілу. Гэта станцыя, як і дзесяткі другіх, пабудавана за першую пяцігодку.

Для чаго нам патрэбна электрычнасць? Для таго, каб пусціць яе на заводы вярцець станкі, асвятляць кватэры рабочых, калгаснікаў, школы, клубы...

У прошлым годзе адкрыт велізарны Беламорскі канал на поўначы. Гэты канал злучае між сабой два моры—Белае і Балтыцкае. Ён мае 227 кілометраў даўжыні. Зараз нашы параходы свабодна ходзяць з аднаго мора ў другое, перавозяць розныя грузы.

За другую пяцігодку мы пабудуем два новыя каналы. Рака Волга будзе злучана з ракой Масквой і ракой Донам.

На 11 тысяч кілометраў павялічацца нашы жалезныя дарогі. Па гэтых дарогах будуць перавозіцца машыны, хлеб і розныя тавары, якіх за другую пяцігодку мы будзем выраблядь куды больш, чым за першую.

Найважнейшая задача нашых калгасаў— павысіць ураджай. Таварыш Сталін сказаў: нашы калгасы павінны стаць большэвіцкімі, а калгаснікі заможнымі. І гэтага мы даб'емся. У канцы другой пяцігодкі ў нас будзе вырастаць хлеба на 14 пудоў больш на кожную душу, чым мы мелі ў канцы першай пяцігодкі.

Але лепшае жыццё дарма не даецца,—сказаў таварыш Сталін. За лепшае жыццё трэба ўпарта змагацца. Яго трэба заваяваць у барацьбе з нашымі ворагамі. А ворагаў у нас яшчэ многа. Кулакі, зладзеі, лодыры і іншыя ворагі стараюцца шкодзіць нам на кожным шагу. Усім трэба пільна сачыць за гэтымі ворагамі, выкрываць іх, гнаць з нашых радоў. Кожны павінен працаваць шчыра, сумленна, клапаціцца аб сваім заводзе, калгасе, быць ударнікам на рабоце.

У гэтай вялікай перабудове краіны на новы лад ёсць не мала работы і для дзяцей. Вось, напрыклад, шэфства над маладняком. Таварыш Сталін на з'ездзе партыі паставіў перад нашай краінай задачу—у бліжэйшы-ж час павялічыць пагалоўе жывёлы.

Многія піонеры і окцябрата дапамагаюць гадаваць калгасны маладняк; яны сталі шэфамі цялят, жарабят, ягнят. А трэба дабіцца, каб усе калгасныя дзеці сталі шэфамі маладняка.

Будзем усе добра вучыцца і дапамагаць партыі выканаць вялікі план другой пяцігодкі.



**Для дзяцей, здольных да музыкі, совецкая ўлада адкрывае спецыяльныя музычныя школы. На здымку—заняткі ў калгаснай музычнай школе, адкрытай у падарунак 17-му з'езду партыі.**



# Пісьмо чырвонаармейца

*— Добры дзень, дарагія бацька і маці! Шлю я вам з Чырвонай арміі свой баявы прывет. Цяпер прачытаў ваша пісьмо. Дарэмна вы мяне шкадуеце. Мяне прызвалі абараняць са зброяй у руках наш Савецкі Саюз. І я гэтым ганаруся, як баец Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі.*

*Вы пытаеце, як мы жывем?*

*— Устаем мы ў шэсць гадзін па сігналу. Памыемся і ідзем на зарадку—розныя практыкаванні праводзім для ўмацавання цела. Снедаем і абедаем у сталовай. У кожнага свой прыбор. Кормяць тры разы ў дзень. Страва заўсёды добрая.*

*Адзеты і абуты мы ўсе добра. У казарме ў нас вельмі чыста. Займаемся восем гадзін у дзень. Вывучаем вінтоўку, кулямёт і працівагазы.*

*Тут, у Чырвонай арміі, нас навучаюць грамаце, гутаркі з намі праводзяць. Чытаем газеты.*

*Вольны час у ленінскім кутку праводзім. Там і шашкі і шахматы, і гульні розныя.*

*Часта мы ставім спектаклі. Наш камандзір таксама з намі на сцэне іграе. На вучэнні і службе ён наш начальнік і мы яго слухаем бясспрэчна. А ў вольны час ён для нас першы таварыш, свой чалавек.*

*Застаюся сын ваш*

**Пятрусь.**






Малюнкі В. ТІХАНОВІЧА і А. ШАХРАЯ

*ПРАЦЯГ*)*

V.

Забрала Міха́ся турбота,
Падшыбла Міха́ся ахвота—
Аб гэтым сказаў ён і маме—
Рыбу павудзіць на яме.
Юрка ссукаў яму лёску,
Ванька зрэзаў бярозку,
Вышла вудзільна на яць,
У рукі было што узяць.
Кручок, паплавок адмысловы—
Былі там майстры і галовы
І быў у іх творчы размах,
Рабілі яны не за страх.
За тое-ж і вуда—адна любата!
Ну, сцеражыся цяпер, драбната,
Рыб'я сямейка,
Ёрш і аклейка!

Не адзін Міхась на яме—
Тут, паўз берагу ракі,
У спаборніцтве з яршамі
Селі чуйна рыбакі.
Закідаюць свае вуды
Хто на хлеб, на чарвяка,
Не глядзіць ніхто нікуды,
Воч не зводзіць з паплаўка.
І хвалююцца не мала
Нашы хлопцы-рыбакі,
Чуць-чуць рыбка заклявала
І заскачуць паплаўкі.
Тут патрэбны спрыт, знароўка
І характар клёва знаць,
Умець трэба ў часе лоўка
Рыбку хітрую падцяць.

Прыглядаўся Міхась,
Як клюе плотка, язь,
Ёрш і лешч і яльчык.
І бывала ярша—
Вы не смейцеся, ша!
Выцягне ён з пальчык!
Ды што ёрш? акуня—



*) Пачатак глядзі ў № 1.

Ґэта вам не гульня—
На кручок падчэпіць,
І пры гэтым не раз
Слова скажа і сказ
Як у сцену ўлепіць.

Раз здарэнне было—
Шчупака з паўкіло
Выцягнуў—ей права!
Ну-ж і радасць была!
Абышла з паўсяла
Пра Міхася слава!
А той момант, калі
Быў шчупак на зямлі,
Не забыць ніколі.
Адкусіў ён кручок,
Гэты гад, шчупачок,
Лежачы на доле.
Быў тут страх, крык і смех,
І Даніла падбег
Памагаць Міхасю,
А Міхась ужо сам
Адзін справіўся там
І справіўся ў часе.

VI.

Раз Міхаська быў на яме.
Сеў сабе на беражок.
Там пясочак, муражок,
Азярко само, бы ў раме—
Зелень яркая, ліства
І высокая трава.
З боку роўны вал чыгункі,
Мост жалезны над вадой,
Дзе вагоны чарадой
На вадзе кладуць рысункі
Ды бягуць ды грукацяць,
І Міхася весяляць.
Ён сядзіць і пазірае,
Як варушыцца вада,
Дзе рыб ходзіць грамада,
Як на сонцы яна грае.
Як у букце пад кустом
Баўтане шчупак хвастом.
Тыя-ж ластаўкі-вяртушкі
У надводнай цішыні
Не нацешацца з гульні
Ды такія ладзяць гушкі
Весялушкі,
Шчабятушкі,
Што ніякі акрабат
Не патрапіць ім у лад.
Вот адна імкне стралою
І адразу з высака



Бух на ўлонне азярка
Дужкай спрытнай, удалою!
Ды так лоўка па вадзе
Рыску крыльцам правядзе.

Пазірае Міхась
На гэтыя з'явы,
Аж выпадак адзін
І дужа цікавы.
Ад Міхася з боку,
Так, на сорак крокаў,
Нейкі дзядзька-рыбак
Вартаваў жыўцоўку.
Ён ляжыць і курыць
Ды вачэй не жмурыць—
Ці не возьме шчупак
Плотку за галоўку.
Плотка—нішто цётка,
Каля фунта будзе,
А сама на вудзе—
Прывязь ёй каротка.
Але шнура ніяк
Распусціць не можа.
І вось бачыць Міхась—
Па вадзе нешта—шась!
Пэўна плотцы шчупак
Штосьці зрабіў нягожа,
Аж глядзіць—не тое,
Нешта больш дзіўное
Ды па версе вады
Сучыць, нібы палка.
Але раптам у бок



Верне дзіўны плавок,
Ну, якраз-жа туды,
Дзе сядзіць Міхалка.
Як зірнуў наш Міхась,
Вуду вобземлю—бразь!
Вуж! Браткі, вось штука!
—Вуж плыве, дзядзька, вуж!

—Стой ты, хлопча, не руш:
Можа то гадзюка!
Вуж у бераг падплыў
І аір абкруціў
Скруткам нерухліва,
А сам страшны такі!
Спіна ўся і бакі
Рыжыя на дзіва.
Падбягае рыбак
Ды хапае кіяк.
—Гэта-ж, брат, гадзюка!
І такая злюка!
Сцеражыся, браток,
Адыдзіся ў куток!
Размахнуўся тут дзядзька калом.
Раз! прамазаў! Другі!
Разгарнула гадзюка кругі,
Павярнулася ўверх жыватом.
Падчапіў яе дзядзька на кол,
З вады вынуў на дол
На пясок, на траву,
Распляскаў ёй ушчэнт галаву,
І, каб больш не было яе духу,
На агонь палажылі, псяюху!

*(Працяг будзе).*

---

# ЯК ЖЫВУЦЬ зімою ПТУШКІ

Прышла зіма з халадамі, завеямі. Менш стала для птушак корму, ды і той закрыты снегам.

Многія птушкі, якія не могуць перанесці цяжкай зімы, адляцелі ў цёплыя краіны. У нас засталіся толькі тыя, якія менш баяцца холаду. Гэта—рабчыкі, белыя і шэрыя курапаткі, глушцы, цецярукі, дзятлы, клясты, сініцы, вераб'і, вароны і іншыя.

А як-жа гэтыя птушкі жывуць узімку?

**ЦЕЦЯРУК** зімою харчуецца ягадамі (выкопвае іх з-пад снегу сваімі кіпцюрамі), пупышкамі багуна, бярозы, асіны і іншых дрэў. Цэлы дзень цецярук шнырае між кустоў, шукаючы сабе спажывы, пералятае з месца на месца.



Глушэц.

Пад вечар цецярукі чародамі, часамі па 100 штук, зноў ляцяць на месца начлега—на маленькі бярэзнічак. Там яны доўга сядзяць на галінках, пахаваўшы пад крыллі галовы і нібы спяць. Перад змрокам яны адзін за адным падаюць каменем на пушысты снег, зарываюцца і спяць усю ноч. У снезе ім цёпла і мякка, як у пярыне.

**ГЛУШЭЦ**—таксама як цецярук, курапатка і рабчык—курынай пароды. Зімою харчы ў яго амаль такія-ж, як і ў цецярука Жыве ён у густым цёмным лесе.

Глушэц—птушка вялікая, цяжкая, важыць да сямі з палавінай кіло. Пакуль узнімаецца з зямлі, дык яго можа схапіць ліс ці другі які-небудзь драпежнік.

Цэлы дзень глушэц бегае па гушчары лесу, шукае сабе яды. Нанач ён забіраецца куды-небудзь у цёмную мясціну, узлятае на густую сасну, садзіцца між кустоў і там адпачывае спакойна. Лісіца яго тут не дастане, каршуны адляцелі ў вырай, толькі куніца ці рысь могуць схапіць яго, але іх не так шмат у нашых лясах.

**РАБЧЫК** вельмі прыгожая і цікавая птушка. Ён кругленькі, як клубочак і такі рабенькі, што аж у ваччу ад яго мітусіцца. Колькі фарбаў на яго пер'ях—цяжка сказаць. Плямкі іржаўчыны, плямкі чырвані, бялізны і яшчэ нейкіх колераў. Яго таму цяжка і заўважыць як ўзімку, так і ўлетку, бо падобен ён па колеру да ўсякай расліны. Прытуліцца да бярозы—ён белаваты. Сядзе на арэшыну — ён шэры. На зямлі таксама добра маскуецца.

Узімку рабчык лётае з куста на куст, есць рабіну і каліну, збірае насенне дрэў.

Вельмі цяжка злавіць гэту птушку любому драпежніку. Толькі ліс можа падкрасціся да яго ды запусціць свае вострыя кіпцюры.



Дзяцел.

**БЕЛАЙ КУРАПАТЦЫ** хавацца ад драпежнікаў дапамагае яе апярэнне. Улетку—яна жоўташэрая, як і расліны таго балота, дзе жыве. Узімку—яна белая, як снег.

Белая курапатка ўзімку робіць ходы пад снегам, каб знайсці сабе корм, схавацца ад холаду і драпежнікаў. Харчуецца яна пупышкамі лісцяў і зазімаваўшымі на балоце ягадамі.

Белую курапатку цяжка ўбачыць. Ідзеш па балоце. Трашчыць пад нагамі снег, сям-там параскіданы невялічкімі крыжыкамі сляды. Але вось сляды прападаюць на снезе. Толькі відаць невялічкія ўзгорачкі. Ступіш яшчэ шаг і раптам з усіх бакоў узнімаецца перад табою пылам угару снег, белыя птушкі замітусяцца ў ваччу.

**ШЭРАЯ КУРАПАТКА** сваёй адзежы ніколі не мяняе. Ад таго ёй і зімаваць цяжэй.

У гэтай птушкі шмат ворагаў: і вароны клююць яе, і сава дзярэ, і сабакі, і каты ловяць яе. Курапатка забіраецца часцяком куды-небудзь у гумно, на прыгуменне. Харчуецца яна толькі зярнятамі раслін.



Шэрая курапатка.

У чыстым полі, дзе няма ніякіх кустоў, курапаткі закопваюцца пад снег, каб знайсці сабе корм і там часта гінуць цэлым гуртам.

**ДЗЯЦЕЛ** надзвычайна карысная птушка. Ён не толькі ратуе наш лес ад розных шкоднікаў, але і корміць сваёю працаю іншых птушак узімку. Ён лётае з дрэва на дрэва, стукае вострым носам, выдзяўбае шкодных чарвей. А сініцы цэлымі чародамі лётаюць за ім. Кара сыплецца з-пад дзятлавай дзюбы, а разам з ёю і розныя казюлькі. Сініцы чылікаюць і дзяўбуць іх.

Дзятлаў у нашых лясах два гатункі: дзяцел чорны (жаўна) і дзяцел стракаты, у якога пер'і белыя і чорныя з чырванню.

**КЛЕСТ** вельмі цікавая птушка. Ён вандруе ўсё сваё жыццё. Калі ў адным месцы няма шышак, клест пералятае ў другое. Клеста можна ўбачыць у лесе заўсёды. Ён поўзае па дрэвах, звісае ўніз галавою, адразае, як нажнічкамі, сваёй дзюбай шышкі і выклёўвае з іх зярняты. Клесты робяць вельмі цёплыя гнёзды ў густых ёлках і выводзяць птушанят як улетку, так і ўзімку.

**М. ЦЭЛЕШ.**



Клест.

В. Г. КАРАЛЕНКА.

# Панскія шчанята

Быў у нас пан Панкратаў. І такі пан, што жывёлу любіў, а з людзей здзекваўся.

Псарню пабудаваў падобную на дом свой. І было ў яго дзесяць любімых сук. Ашчэніцца, бывала, сука, а пан той зараз-жа шчанят раздае прыгонным жанчынам. Не ўсім, а тым, у каго дзіця малое. Гэта, каб жанчына сваімі грудзямі шчанят карміла.

Вось быў у гэтага пана прыгонны чалавек, Аляксеем звалі. Разумны быў чалавек, прыгожы, проста ва ўсім маёнтку такога не знойдзеш. І была ў яго маладая жонка.

Аднаго разу прышлося паехаць Аляксею ў далёкую дарогу. А жонка ў яго вось-вось павінна радзіць. Ну, нічога не зробіш. Паехаў ён у далёкую дарогу. Там людзей розных спаткаў. Далучыўся да іх. Едуць. Тыя між сабою ўсё гутараць. А ён, Аляксей, ідзе за вазамі, усё маўчыць, як хмара. Другія ў яго і пытаюцца:

— Ты-ж гэта што, чалавеча, з таварышамі едзеш, а з намі і гаварыць не хочаш? Ганарышся ці што?

— Не,—кажа Аляксей,—таварышы мае мілыя, не ганаруся я. Гэта я невясёлым іду, што дома жонку пакінуў. А пан у нас вельмі-ж люты. Б'юць, калоцяць, толькі душы не вымаюць. Але гэта яшчэ не ўсё. Вось завёў ён моду — шчанят жаночымі грудзямі карміць.

Вось і пачалі тыя людзі, дарогаю ідучы, аб тэй справе меркаваць. А потым і кажуць яны Аляксею:

— Дурні, відаць, у вас жывуць. Няма такога закона, як свет стаіць, не бывала, каб шчанят жаночымі грудзямі карміць.

Запалі тыя гутаркі ў сэрца Аляксеева. Ідзе з абозам, дарога пад ім гарыць, а сам усё думае: няма закона, ды і няма закона. Добра. Прыяжджае ўночы дадому. Жонка яго не сустракае, агню не паліць. Цёмна ў хаце, як у магіле. Уваходзіць у хату, дзіця ў калысцы плача, а ў кутку шчанята скавычуць.

— Гэт-та што такое?

— А гэта,—кажа жонка,—сынок нарадзіўся.

— А ў кутку што?

— А ў кутку шчанята, сам разумееш.

— Я то разумею, а ты ці разумееш сама? Я гэтага цярпець не магу. Давай шчанят сюды.

Узяў адно ў руку, другое ў другую, прыціснуў моцна ды зноў палажыў назад.



А назаўтра сабакары прыходзяць:

— Ганна, паказвай шчанят, ці здаровы яны ў цябе?

— Ды яны, вось, праз невашта паздыхалі...

— Як, абодва?

— Абодва і паздыхалі.

— Што за прычына? Ну, справа не наша, пану раскажам.

А тут Аляксей у хату ўваходзіць.

— Што вам трэба? Чаго прышлі? Дзе закон такі? Дзіця ў хаце крычыць, а шчанята ў жанчыны грудзі ссуць. Прэч з хаты, каб я вас і не бачыў!

Пашлі сабакары да пана, аб усім расказалі. І што-ж вы думаеце? Загадаў ён зараз-жа тых шчанят на палатно па-

лажыць, як пакойнікаў. Прынеслі іх гэтак да пана. Ашчупаў пан.

— Забіты,—кажа,—злодзеем твары нявінныя.

І заплакаў. Потым паклікаў сабачых павароў і загадвае для псарні аўсянку варыць. Заўсёды, бывала, так: аўсянку варылі для ўсёй псарні, вёдзер на сорак і болей. Аўсянку зварадь, пачнуць сабак карміць, а пан тут-жа на стуле сядзіць, глядзіць ды з сваіх рук падкармлівае. Так і на той раз. Сеў каля катла, шчанят на палатне радам паклаў.

— Паклікаць Аляксея!—загадаў ён.

Прышоў Аляксей.

— Бачыш,—кажа,—без віны забітых?

— Бачу, чаму-ж не. Бывае. Не першы-ж раз здыхаюць.

— Ты ім канцы зрабіў, злодзей!

— Я ім канцоў не рабіў, а вось вы не па закону робіце... Дзіця, хоць і мужычае, усё-ж чалавечая душа лічыцца. І павінна яно ў калысцы ляжаць, а вы ў жанчыны грудзі псінай пакасціце. Паздыхалі-б яны ўсе ў вас! І то народ дурны: усіх-бы перадушыць трэба!

Як ён гэтыя словы сказаў... устаў пан са стула... Устаў ён са стула ды я-як штурхане



Аляксея ў грудзі... Упаў той дагары ды проста... проста галавою ў кацёл.

Пікнуць не паспеў... Кінуліся сабакары, выцягнулі... Увесь абварыўся...

Зашумелі сабакары, зашумелі і дваровыя. Адзін сабакар таму Аляксею брат быў... Кінуўся ён у палацы, схапіў стрэльбу... Пан да дворні, а ўжо і дворня воўкам глядзіць. Ускіпела халопскае сэрца.

Цана 30 кап.

# ПРА ЛЫЖНІКАЎ-ВЫНАХОДЦАЎ

Малюнкі Н. Малевіча
Вершы А. Дзеркача

## ПРАЦЯГ





7. Харытон за ногу цягне
Небараку Янука.
Памагае і сабака
Выратоўваць бедака.



8. Эх, ты гора! Зноў няўдача:
У снег ён з валенкам ляціць
А сабака разззлаваўся—
Парасон ірве, вурчыць.



9. Янка босы і сярдзіты—
На сабаку з кулаком!
Харытон-жа вінавата
Набліжаецца бачком.



10. Што рабіць? Ўсе трое селі,
Каб падсілiцца ядой...
Раптам Янка наш як крыкне:
—Здагадаўся я! Пастой!



11. Запражэм сабаку ў сані!
Каб яго не паганяць—
Кілбасы кавалак трэба
Перад мордаю трымаць.



12. Як задумалі—зрабілі...
Прэ бульдог за кілбасой
І на санках—ветрагонах
Мчацца лыжнікі стралой.



ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА".
Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ
Друкарня імя Сталіна. Заказ № 250. 12070 экз. Менгарліт № 7??